## Гарбатая краіна.

Яшчэ не уся работа зроблена,
Не усе жніва у нас пажата,-
Яшчэ краіны стан пагорблены,
Як быу, застауся ен гарбатым.
(Янка Купала. "Безназоунае".)

Скончылася другая сесія Вярхоунага Савета незалежнай Беларусі. Колькі надзей ускладалася на гэтую сесію, колькі марау будзіла яна. Яна чакалася,як новы вялізарны крок на шляху адраджэння. Ад яе чакалі радыкальных рашэнняу. Яна павінна была зрабіць рух да свабоды неабарачальным.

Ну а вынікі? Вынікі, мякка кажучы, не натхняюць. Так мы зрабілі крок наперад, зрабілі аж на цэлы жабін скок. Беларусь нагадвае у сваім руху спутанага каня, спутанага бяспамяцтвам, абыякавасцю,нерашучасцю, няуменнем не толькі жыць, але і думаць самастойна. А стрыножылі нашу Бацькаушчыну усімі гэтымі путамі не хто іншы, як спадары дэпутаты. Гэта парламенцкая большасць трупам кладзецца на шляху кожнай спробы прыблізіць нашу дзяржаву да рэальнай, а не папяровай самастойнасці.

Сесія так і не адказала на галоуныя пытанні:
- Як ратаваць эканоміку?
- Як займець незалежную уладу?
- Як зрабіць працэс руху да незалежнасці неабарачальным?
- Як вярнуць краіне яе гістарычную самабытнасць?

Складваецца уражанне, што ні на адным пірунку, ні у адным абсягу дзейнасці ні парламент, ні урад Беларусі на маюць хоць якой-нібудзь самастойнай лініі. Што ні крок, то паутарэнне, ды да таго ж яшчэ і няудалае, таго, што год, ці два назад прайшлі ці Прыбалтыка, ці Украіна ці нават Якуція.

Возьмем,хаця б тую ж эканоміку. Есць аб'ектыуныя прычыны і вельмі шмат. Яны зразумелыя. Але колькі суб'ектыунага на іх накладваецца?

Як ідзе прыватызацыя? А так, каб забяспечыць магчымасць камуністычнай мафіі на нарабаваныя у народа грошы раскупіць Беларусь на дзялянкі пад лецішчы. А у гэты час спыняюцца нерэнтабельныя заводы, з'яуляюцца дзесяткі тысяч беспрацоуных, ідзе выпуск метала- і энергаемкай прадукцыі, якая або нікому не трэба, або прадаецца за бясцэнак. Вельмі б хацелася спытаць у спадара Кебіча, калі...

... калі пачнецца рэалізацыя нерэнтабельных прадпрыемствау у прыватныя рукі?..
... калі пачнецца перапрафіляванне беларускіх заводау і фабрык на выпуск патрэбнай, якаснай і дарагой прадукцыі?..
... калі пачнуцца захады да таго, каб стварыць на Беларусі у большасці з галін народнай гаспадаркі замкненыя цыклы?..
... калі мы перастанем прасіць і даваць, а пачнем купляць і прадаваць?..
... калі, калі, калі? Цяжка сказаць, але ва усякім разе не раней таго часу, калі урад Беларусі узначаліць нацыянальны канцлер са светапоглядам Зянона Пазняка.

Урад лямантуе, што у Беларусі усе раскупляецца і вывозіцца, спрабуе перакрыць дарогі, дражніць людзей сваіх і прыезджых. Гэта у той час, калі нават у не маючых эканамічнай адукацыі людзей, ужо паутора года назад склалася цвердае перакананне у неабходнасці увядзення сваіх грошай. За гэты час паспелі наспрачацца гісторыкі і дайшлі да згоды на талеры, за гэты час мастакі зрабілі не адзін эскіз, а што зрабіу урад? Урад мяркуе увесці купоны Ай-я-яй, якая радыкальная мера паводле Украіны ці Літвы,якія практычна выйшлі на прамую па увядзенню уласных грошай. А зараз прыкінем, што з гэтага вынікае. Каб мы увялі свае грошы летась, то Беларусь змагла б выкінуць на саюзны рынак мільярды рублеу і практычна падвоіць нацыянальны даход рэспублікі. Прауда гэтая акцыя у некаторай ступені падарвала б эканоміку суседніх рэспублік,але урад прамарудзіу, і ужо зараз усе-наадварот, лавіна папяровых рублеу ужо хлынула у Беларусь падводзячы да поунага краху беларускую эканоміку. Мала таго, што мы маглі разбагацець і не разбагацелі, дык страцілі і тое, што мелі. Толькі за гэта урад Кебіча заслугоувае адстаукі, калі не больш строгага уздзеяння.

Пра гістарычную самабытнасць. Беларусы дрэнна ведаюць сваю гісторыю. Гэта іхняя і віна, і бяда разам. Бяда у тым, што гісторыя гэтая замоучвалася не выкладалася, скажалася. Віна у тым, што большасць не жадала і упарта не жадае нічога ведаць. Пры тым гэтае дрымучае няведанне узводзіцца у ранг гонару, як было пасля рэвалюцыі:"Мы у акадэміях не абучаліся". Адсюль і бярэ пачатак сітуацыя, калі кожны беларускі тэрмін трэба уводзіць з-пад палкі ці з боем.Дрымучая парламенцкая большасць з легкасцю гатова увесці "прэзідэнта","прэм'ер-міністра", але касцьмі ляжас упроць "канцлера", будзе стаяць за чужамоуны "савет" але супроць "сойма". Яны гатовы у Ляхавічы ці Ганцавічы пасадзіць "мэра", але не "войта" і так ва усім.

На усенароднае абмеркаванне выносіцца праект канстытуцыі і справа гонару кожнага свядомага беларуса падтрымаць самому і дапамагчы, растлумачыць і пераканаць для падтрымкі у гэтай канстытуцыі усяго нацыянальнага, спрадвечнага, роднага.

Як зрабіць працэс руху да незалежнасці неабарачальным? Гэта перш за усе стварыць у рэспубліцы усе атрыбуты сувярэннай дзяржавы.

Грамадзянін кожнай дзяржавы мае свой пашпарт. Беларус мае пашпарт неіснуючай краіны. Народу расказваюць байкі пра цяжкасць з тым, каб надрукаваць 7-8 млн. пашпартоу? Цяжка? Дык паглядзіце,як людзі робяць.Хай застаюцца старыя пашпарты,у каго яны есць,а новыя павінны выдавацца ужо свае,заміж зношаных,згубленых-свае і г. д.

Кожная дзяржава мае свае праваахоуныя інстытуты, свае мытні, сваю памежную варту, нарэшце свае войска.

Вярхоуны Савет Беларусі вырашыу не ствараць нацыянальную гвардыю, не распаусюдзіу рэжым мяжы з Польшчу на усю мяжу не нацыяналізавау міліцыю,так хітра стварае Міністэрства на справах абароны,што практычна тарпедуе стварэнне Беларускага нацыянальнага войска. На бягучы момант на Беларусі створана адзіная войсковая арганізацыя – Беларускае Згуртаванне вайскоуцау, якую падтрымалі шматлікія беларускія вайсковыя суполкі, як на тэрыторыі Беларусі, так і за яе межамі. БЗВ абавязалася першнайперш садзейнічаць стварэнню нацыянальнага вайска.

Чакалася, што пры разглядзе вайсковага пытання будзе улічана агульная і адзіная думка Беларускіх афіцэрау аб неадкладным стварэнні Беларускага войска. Аднак гэтага не адбылося. Спроба старшыні БЗВ падпалкоуніка Міколы Станкевіча пераканаць у неабходнасці неадкладнага стварэння войска спадара Станіслава Шушкевіча поспеху не мела. Беларускае кіраунiцтва лічыць больш прыймальным не спяшацца, хоць безумоуна ведае, да чаго прывядзе такая нерашучасць. А прывядзе, альбо да акупацыі рэспублікі саюзнымі войскамі, альбо, калі працэсы у Расіі і іншых рэспубліках гэтага не дазволяць, то да вываду гэтых войскау, але вываду са зброяй, з маемасцю, без якой бы там ні было кампенсацыі, г.зн. кіраунiцтва у гэтым пытанні вядзе Беларусь да чарговага банкруцтва аднадасова эканамічнага і палітычнага. Справа у тым, што Беларусь не зможа абыйсціся без войска, але тады ей давядзецца фармаваць яго на пустым мейсцы, траціць дзесяткі мільярдау. У той час, як зараз гаворка ідзе пра перападпарадкаванне гатовых сфармаваных дывізій. На самай справе, скупы плаціць двойчы. Нашы дэпутаты лямантуюць, што на войска няма грошай зараз, цікава,дзе яны іх возьмуць потым? З каго можна будзе спытаць за усе бяздумныя крокі, якія робіць наш парламент і урад. Наурад ці удасца спытаць з дэпутата, які не за тое падняу руку, а шмат хто з дэпутатау проста не дажыве да тога часу, калі надыдзе пара адказваць, бо старэнькія ужо і нягеглыя, як целам так і розумам.

Пакуль што не вядомы ні міністр абароны ні планы міністэрства, але складваецца уражанне, што паутараюцца 17 і 18 гады, калі з-за прамаруджвання так і не удалося стварыць Беларускае войска. У гэтай сітуацыі абставіны могуць скласціся так, што узнікне неабходнасць стварэння сваіх вайсковых фармаванняу явачным парадкам, без плана, без дазволу, тым больш, што умовы для гэтага есць. Калі парламент і урад будуць марудзіць, БЗВ нічога не застанецца, як прыняць ініцыятыву на сябе.

І, нарэшце, як займець незалежную уладу?

Перш-найперш, тыя уладныя структуры, што у нас есць не адпавядаюць стану рэспублікі і гістарычным задачам, якія перад ей стаяць Вярхоуны Савет свае аджыу. Патрэбна тэрмінова правесці новыя выбары у значна меншы на колькасці Сойм, які б працавау стала, з адным ці двума перапынкамі,які б складауся з прафесійных палітыкау, а не з кухарак, ветэранау ці красамоуных авантурыстау. Безумоуна, што і кухарка можа навучыцца кіраваць краінай, але вышэйшы орган кіравання краінай і лікбез некалькі розныя рэчы.

Патрэбен навы закон пра выбары, які б забяспечвау фарміраванне іменна нацыянальнага Сойма. І хоць не кожны той свядомы беларус, хто размауляе па-беларуску, але варт і перастаць смяшыць увесь свет, таму мова павінна стаць допускам у Сойм. Моуны цэнз патрэбен,ен абавязковы, без яго Беларусі не мець нацыянальнага парламенту.Мо каму падасца гэта не справядлівым, то варт прыпомніць, што перш чым тварыць законы трэба навучыцца выконваць тыя, што есць і Закон аб дзяржаунасці беларускай мовы у тым ліку.

Толькі стварыушы нацыянальныя органы улады мы зможам гаварыць аб незалежнасці гэтай улады ад ідэалогіі, суседзяу, Масквы, страху, эканомікі. Нацыянальная улада павінна кіравацца толькі нацыянальнай ідэяй, толькі інтарэсамі нацыі. Усе астатняе другаснае і меншаснае.

Безумоуна, мне не удалося перылічыць усяго, што не зроблена яшчэ для умацавання незалежнасці Беларусі. Але пэуным з'яуляецца тое, што не зроблена практычна нічога. А значыць ліпавая у нас незалежнасць. А значыць захоуваецца і надалей падняволы стан беларускага народа і не суверэнная мы-дзяржава, а калонія. І хоць усе цяжэй дакладна назваць нашу метраполію, але пэуна адно, самы страшны прыгнятальнік беларуса-гэта яго рабская душа. І работы на гэтай ніве – не пачаты край.

На днях павінен адбыцца візіт прэзідэнта незалежнай Украіны Леаніда Краучука у Менск.Мэта візіту-аб'яднанне намаганняу Украіны і Беларусі перад тварам нарастаючай пагрозы з боку новаяуленнай метраполіі. Усе свядомыя беларусы з надзеяй глядзяць на Дом Ураду у Менску.На даны момант толькі ваенна-палітычны і эканамічны саюз з незалежнай Украінай дасць магчымасць выпраміцца нашай згарбачанай дзяржаве.

Яраслау Грынькевіч.

Яшчэ раз пра генералаа

Булак-Балаховіча.

( падборка Ігара Супаненкі ).

" На чужыне " N 1 сакавік 1920 г. Рыга.

Асоба г.Булак-Балаховіча яшчэ з восені 1918 г. вельмі цікавіла Урад і шырокія грамадскія кругі Беларусі, але адсутнасць афіцыяльнага Беларускага Прадстауніцтва у Эстыі не давала магчымасці сабраць аб ім пэуных вестак (Летувасы распускалі весткі аб тым, што ен - летувас, палякі лічылі яго палякам, а расейцы-"сваім"). Вось чаму Вайскова-Дыпламатычная Місія БНР, як толькі яна была акрэдытавана у Эстыі, адразу ж увайшла у сувязь з генералам Булак-Балаховічам і, высветліушы пытанні аб яго нацыянальнасці і палітычных поглядах, прыступіла да перамовау аб пераходзе яго на беларускую службу.

Хутка высветлілася, што генерал Булак-Балаховіч не толькі не паляк, або летувас, не толькі самы праудзівы беларус, але яшчэ і добра свядомы у беларускім пытанні грамадзянін, добра ведае беларускую літаратуру і мову, і нават сам піша вершы па-беларуску.

Пачуушы аб прыездзе у Эстыю Беларускага Вайскова-Дыпламатычнага прадстауніцтва ен адразу ж з'явіуся да шэфа Місіі, палкоуніка Езавітава, і уручыу яму заяву гэткага зместу:

" Атаман
Дабравольнага Народнага
Атрада
14 лістапада 1919 года.
N 734
-----
Дзеючая Армія.

Старшыні Рады Народных Міністрау Беларускай
Народнай Рэспублікі
праз
шэфа Вайскова-Дыпламатычнай Місіі у Латвіі і
Эстыі Палкоуніка Езавітава.

З'яуляючыся грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі,лічу патрэбным, каб мае войска было скарыстана для абароны цэльнасці і недзялімасці маей Бацькаушчыны,а таму прапаную майму Ураду залічыць мяне і мой атрад на беларускую службу.

Генерал-маер Булак-Балаховіч."

Шэфам В-Дыплам. Місіі БНР у Латвіі і Эстыі заява гэта была прынята і пераслана Ураду. У адказ жа на яе генерал Булак-Балаховіч быу залічаны на беларускую службу і атрымау ад шэфа Місіі гэткі рэскрыпт:

"В-Дыпламатычная місііа Беларускай Народнай
Рэспублікі у Латвіі і Эстыі
15 лістапада 1919 года
N 62
м. Юр'еу
Атаману Дабравольчаскага Народнага Атрада
генерал-маеру Станіславу Нікадзімавічу
Булак-Балаховічу.

Грамадзянін генерал,

Сенека мною атрымана ад Вас для перадачы Старшыні Рады Міністрау Беларускай Народнай Рэспублікі заява аб тым, што вы, як грамадзянін Беларусі, лічыце патрэбным стаць на абарону сваей Бацькаушчыны, каб забяспечыць ей цэльнасць і непадзельнасць, і просіце залічыць Вас і камандуемае Вамі войска на службу у арміі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Глыбока крануты і усцешаны Вашай заявай, я тэрміновым чынам напрауляю яе майму Ураду, які, я у гэтым пэуны, будзе вельмі задаволены ею і, у самым хуткім часе, прышле да Вас паведамленне аб задавальненні Вашай просьбы і падзяку у гатоунасці паслужыць Бацькаушчыне.

Да гэтага ж часу, па моцы дадзеных мне Радай Міністрау паунамоцтвау, я выказваю падзяку ад імя нашай шматпакутнай Бацькаушчыны і паведамляю Вам, што з гэтага часу Вы з Вашым войскам лічыцеся на службе у Арміі Беларускай Народнай Рэспублікі, як камандзір Асобнага Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі у Эстыі.

Шэф Місіі Палкоунік Езавітау."

## НОВАЯ ХВАЛЯ ПАЛАНІЗАЦЫІ.

У апошні час актуальнаю тэмаю нашага друку стау дзень учарашні.Ім поуняцца усе нашыя газеты і часопісы. Яно зразумела.Мы вяртаем сваю слауную гісторыю, імены нашых слауных прашчурау,адраджаем нацыянальную свядомасць і годнасць.

Калі казаць газетнымі штампамі, дык займацца гэтаю справаю сення пачэсны абавязак кожнага публіцыста. А ад сябе магу дадаць: зараз гэта і мода і прэстыж.

А вось пісаць пра сенняшні дзень справа надзвычай цяжкая і складаная. Аналізаваць працэсы, якія адбываюцца у нашым грамадстве зараз,занятак няудзячны, бо кожны з нас з'яуляецца не толькі сведкам, але і удзельнікам гэтых падзей. І кожны з нас мае наконт усяго гэтага уласную думку, і горача аспрэчвае усе, што не дапасуе ей.

І тым не менш займацца гэтаю справаю проста неабходна. Неабходна зараз, бо заутра будзе позна. Заутра гэта будзе ужо не працэс ці падзея,на якія можна аказаць пэуны уплыу, штосці супроцьпаставіць,а стане гісторыяй. Тады мы будзем мець справу з гістарычным фактам і зможам толькі аналізаваць яго.

З пачаткам крушэння артадаксальнай камуністычнай ідэалогіі, падрывам веры у немінучую светлую будычыню, усе наша грамадства ускалыхнулі новыя невядомыя нам працэсы. З'явіліся новыя палітычныя і сацыяльныя плыні і рухі. Узніклі партыі, згуртаванні, суполкі, якія яшчэ і сення не вызначыліся канчаткова сваімі поглядамі, мэтамі і напрамкамі дзеяннау. Але сярод усяго гэтага сацыяльна-палітычнага тлуму есць адзін працэс (мне чамусці да спадобы такое вызнанне), пачатак якога губляецца у вяках, працягласць-стагоддзі. Адраджэнне яго-сенняшні дзень. Гэта-паланізацыя.

У апошні час удалося неяк прыпыніць (не спыніць!) пагалоуную русіфікацыю насельніцтва Беларусі. І у нацыянальных меншасцяу з'явілася магчымасць адрадзіць сваю мову, культуру, рэлігію. Такая магчымасць з'явілася і у палякау, якія жывуць на Беларусі.

Дзесці на пачатку 1989 года у школах Гарадзенскай вобласці пачалі утварацца гурткі па вывучэнню польскай мовы. Пайшла размова пра утварэнне класау, дзе усе заняткі будуць вясціся выключна на польскай мове. Гарадзенскі універсітэт пачау рыхтаваць настаунікау польскай мовы. Узнік Саюз палякау на Белалусі. Сталі аднауляцца разбураныя касцелы.

На першы погляд самы звычайны працэс Адраджэння. Але ж...

Праз год-другі не стала у школе гурткоу па вывучэнню польскай мовы. Ціха, не так шумна, як утвараліся, зніклі яны за рэдкім выключэннем. Асаблівай актыунасці не праяуляе і Саюз палякау. Ва усякім разе мала звестак пра яго дзейнасць.

А вось што датычыць рэлігіі, то тут справа зусім іншая.

Адкрыццем касцелау і набажэнствам дзейнасць святарох не абмяжавалася. Яна паступова крок за крокам стала набіраць актыунасць і размах. Каб зацвердзіць сваю думку я спыню увагу толькі на адным кірунку гэтай дзейнасці.

Дзесці гады два таму назад з актыуных вернікау сталі фарміраваць гурты дзеля вандровак у Польшч. На першы погляд справа не благая. Вернікі адной краіны уступаюць у прамыя зносіны з вернікамі другой краіны. Выбіраліся для гэтых вандровак людзі выключна каталіцкага (!) веравызнання і ім ставіліся адпаведныя патрабаванні (наведваць касцел у час імшы, ведаць пацеры і г.д.). Акрамя гэтага пры кожным касцеле ствараюцца групы з дзяцей вернікау, якія вывучаюць польскую мову, Закон Божы, а каб дзеці мелі інтарэс і ахвотна наведвалі заняткі ім таксама абяцаюць вандроуку у Польшч.

Усе ж,як не кажы,а пабываць за мяжой сенняшнім часам усе маюць жаданне!

Калі год назад усе гэта датычыла людзей каталіцкага веравызнання, то зараз гэты працэс набыу зусім іншы змест.

У травені бягучага года Папа Рымскі наведау Беласток. Мэта вандроукі не утойвалася: знаемства з католікамі заходняй часткі Савецкага Саюза. З Летувы, Беларусі, Укпаіны прыехалі тысячы вернікау. І не толькі...Пры фарміраванні гэтых гуртоу ужо не стаяла пытанне пра тыя млоды і пацеры. Пры жаданні туды маглі трапіць і вернікі іншых канфесій. А такіх жадаючых было нямала.

Калі пры фарміраванні гуртоу для сустрэчы з Папам у Беластоку была некаторая паспешнасць і тым самым можна растлумачыць, што да іх складу трапілі людзі не каталіцкага веравызнання, то да Шостага сусветнага дня каталіцкай моладзі, які адбыуся 14-15 жніуня у Чанстахове, рыхтаваліся грунтоуна. І час для падрыхтоукі быу. Але тым не менш да складу вандроунікау афіцыйна залічваліся праваслаунныя вернікі. Для гэтага ,належала ім прачытаць адну-дзве млоды на расейскай мове ці адказаць на пытанне:"Хто такі Папа Рымскі?" Акрамя праваслауных вернікау у склад гэтых дэлегацый трапялі-і іх нямала-і тыя, хто не ведау ні адной млоды і проста не умелі жагнацца. Самыя звычайныя бязбожнікі. Сярод іх было нямала і камуняцкай намеклатуры, якія не маюць ніякага дачынення да каталіцкай моладзі і каталіцызма увогуле.

Ні для кога не сакрэт, што нашыя так званыя вернікі усе, як адзін, ехалі гандляваць, бо пражыць без грошай не толькі у чужой, але і у сваей краіне проста немагчыма (валюты ніхто не выменьвау.).

Нашых вандроунікау зразумець можна. Давядзеныя да галечы камуняцкім панаваннем людзі хоць такім чынам маюць магчымасць прыдбаць неабходныя рэчы. І не усе так званыя каталікі даехалі да Частахова: хто да Беластока, хто да Варшавы. Гэтую тэму закранула нават ЦТ.

...А што было у самім Частахове. Спецыяльна для нашых вандроунікау былі арганізаваны палатачныя гарадкі, дарэмнае харчаванне, выдаваліся падарункі і раздавалася царкоуная літаратура, у тым ліку і на расейскай мове (нейкая сумесь каталіцызма і праваслауя) і усе гэта было аплачана.

Цяпер давайце памяркуем, якая беларуская арганізацыя (ТБМ ім. Ф.Скарыны ці згуртаванне "Бацькаушчына")зможа арганізаваць акцыю такога размаху для беларусау Беласточчыны. Вядома, гэта ім не пад сілу. Не зможа здзейнасці такую акцыю

нават БНФ. Не стане у яго для гэтага сродкау.

Пэуна, тут можна запярэчыць, выказаць іншыя меркаванні. Я не ведаю, што піша аб гэтым польскі друк, але ва усіх нашых беларускіх выданнях прайшло паведамленне, што Польшч у час фестывалю наведала 70 тысяч...і толькі з той розніцай, што у адных выданнях значылася "каталікау СССР", у другіх- "палякау, якія жывуць у СССР". Пасля гэтага зусім легка перайсці да 3-4 мільенау палякау, якія быццам бы жывуць на Беларусі, ну а далей шлях пратоптаны...

Далей-крэсы.

Язэп Палубятка.
Мястэчка Масты.

## Нядзельная школа. Праца працягваецца.

8 верасня пачауся другі навучальны год у беларускай нядзельнай школе горада Прыазерска Джэзказганскай вобласці Казахстана. Пачатку заняткау папярэднічала шырокая рэклама на мясцовым тэлебачанні, якую арганізавала Алена Лабуда, а таксама шматлікія улеткі расклееныя па горадзе.

Селета навучанне вядзецца у трох групах:
- старэйшай - 6 - 9 класы
- сярэдняй - 3 - 5 класы
- малодшай - 2 клас.

Школу наведвае да 40 вучняу. Заняткі вядуць: Станіслау Суднік, Ігар Супаненка, Юры Маянскі, Сяржук Пахучы, Юры Кавалевіч, Вадзім Крывецкі, Станіслау Цвірка, Сяржук Грамадка.

Падручнікамі школа забяспечана поунасцю, але адпаведныя цяжкасці узнікаюць. Дзеткі наведваюць школу з задавальненнем. Селета адбыуся вялікі прыток дзевяцікласнікау. Лепш за усіх вучыцца Лена Бязрукава. Дыктоукі піша толькі на 4 і 5. З сачыненнямі трохі цяжэй. Добрых поспехау дасягнула і Юля Сойкіна (дарэчы бацька яе-са смаленскіх беларусау, хоць вядома запісаны рускім). Юля вельмі палюбіла беларускую паэзію, шмат вучыць на памяць. Пачаушы займацца з верасня, у апошняй дыктоуцы зрабіла толькі 3 памылкі. Старанна займаюцца Таня Дземянкова і Дзіма Чарапан.

Вельмі ахвотна вучацца дзеткі у малодшай групе. Ужо усе чытаюць па-беларуску без акцэнту.

Мы разумеем усе цяжкасці, але лічым што прыспела пара адкрываць нядзельныя школы ва усіх месцах, дзе есць буйныя беларускія арганізацыі. А гэта: Алма-Ата, Навасібірск, Масква, Цвер, Мурманск, Ніжні Ноугарад, Якуцк, Калінінград, Санкт-Пецярбург, Кохтла-Ярве, Вільня, хаця за апошнюю, нам здаецца, можна не хвалявацца.

Пасля некалькіх гадоу нашай школы у Беларусь і на беларускія землі другіх рэспублік вернуцца дзеці больш нацыянальна свядомыя, чым многія сенняшнія кіраунікі Рэспублікі Беларусь.

Сення мы ствараем сваю будучыню.

## УЛАДАРАМ БЕЛАРУСІ.
(з нагоды новай саюзнай дамовы)

Мы ішлі да свабоды не дзень і не год,
Мы ішлі аж цямнела з натугі уваччу
І па скронях сцякау наш скрываулены пот,
І дайшлі, вось яна, вось бяры-не хачу.

Мы ішлі да свабоды аддаушы сябе
На алтар нашай вольнай, любімай зямлі,
Мы і зернем былі у той крывавай сяубе,
Мы дажджом, мы і сонцам, і ветрам былі.

Мы дайшлі,ды,як здзек,раптам тыя,хто веу,
Пхаюць зноу нас у лехі, у путы кайдан,
Докі хітрых, салодкіх і смачненькіх слоу
Зноу, як саван, на нас надзяваюць абман.

Дык паслухайце нас! Вы! Парламент! Урад!
Вам гукае гаротны, бяздольны народ,
Ен стаміуся ад вашых хаурусау і здрад,
Ен праклены сабрау вам за тысячу год.

Начале Беларусі паставіу вас лес,
Дык зірніце, пагляньце, вы у душы свае,
Мо чый дзед растраляны сягоння уваскрос?
Можа бацьку Чарнобыль здароуе дае?

Адкажыце, за што вы уладарнай рукой
Край радзімы ізноу сплананавалі на здзек?
Не купіць вам за нашу свабоду спакой,
Беларус зразумеу, што і ен - чалавек.

Ен маліуся на вас, ен гатоу быу на бой,
Ен паверыу у чэснасць абранцау сваіх,
А вы гоніце зноуку, як быдла, на убой,
А вы зноу, як варагі, у родным краі.

Дык спынецеся! Час шчэ не сцек, як пясок,
Што ваш новы саюз? Ен-хлусня, ен-мана.
Не рабіце апошні пагубны той крок,
Бо замкнецца навекі няволі сцяна.

5.12.91 г. Станіслау Суднік.

## Каардынацыйная рада БЗВ.

16 лістапада у будынку Дома афіцэрау у Менску адбылося пасяджэнне каардынацыйнай рады Беларускага Згуртавання Вайскоуцау.

Адкрыу пасяджэнне старшыня БЗВ падпалкоунік Мікола Статкевіч. Ен жа выступіу і са справаздачным дакладам за месяц работы рады.У дакладзе выдзяляюцца наступныя моманты:
- БЗВ паступова набірае моц,знайходзіць усе больш і больш прыхільнікау, але масавым рухам яшчэ не стала;
- вядзецца прапаганда праз сродкі масавай інфармацыі аб мэтах задачах і самім БЗВ. Сам Статкевіч не раз выступау па радые, тэлебачанню і у прэсе;
- супраць БЗВ у частках БВА пачалася антыпрапаганда, цкаванне, абліванне брудам. Аддаюцца загады не прапускаць сяброу БЗВ у часткі баючыся агітацыі;
- народны дэпутат палкоунік Паулау асобна ужывае нячыстыя сродкі агітацыі супраць БЗВ. У прыватнасці, у гарнізонах збірае людзей і тлумачыць на гэтых сходах, што БЗВ-фашысцкая арганізацыя, якая збіраецца выселіць небеларусау з Беларусі і г.д. Праца супроць БЗВ вядзецца і у іншых мейсцах і іншымі рэнегатамі;
- у Печах збіраюцца звальняць за працу у БЗВ маера Міхася Варанца;
- на Беларусі ужо дауно утворана арганізацыя "Фонд дапамогі вайскоуцам".Яна дзейнічае. Яе дэлегаты присутнічалі на радзе (сябры гэтай арганізацыі уведзены у КР БЗВ).

З палітычным дакладам аб ваеннай палітыцы на Беларусі выступіу народны дэпутат РБ маер Грыбанау ( сам родам з Браншчыны). У дакладзе ен зазначыу, што на Беларусі самае спрыяльнае становішча для фарміравання Узброеных Сілау, аднак Вярхоуны Савет і Урад не хочуць гэтага рабіць, не хочуць ажыццявіць пункт 10 Дэкларацыі аб нейтральнасці і без'ядзернасці.

Грыбанау асобна спыніуся на паводзінах Шушкевіча, назвау яго здраднікам, за тое, што той падпісау саюзную дамову без ведама ВС РБ, за што Гарбачоу паляпау яго па плячы, мауляу-малайчына.

Грыбанау выказауся за тое, каб УС мець фармальныя, а не рыхтавацца да вайны, бо пры выпадку вайны, яны усяроуна будуць разбітыя.(Пасылка спрэчная).

Далей з садакладам выступіу народны дэпутат РБ маер Шэйман. Ен спыніуся на выніках працы сесіі ВС РБ, якая напярэдадні разглядала вайсковыя пытанні. Ен сказау, што камандуюцы БВА Кастэнка за адзіныя Узброеныя Сілы, а значыць і усе яго падхалімы таксама. Урад Беларусі на пасаду ваеннага міністра хоча паставіць чалавека цывільнага, які нічога у вайсковых пытаннях не разумее,а гэта значыць, што запрауляць усім будзе Кастэнка. Далей дэпутат Шэйман зазначыу, што Расія не збіраецца фінансаваць усе Узброеныя Сілы СССР,а толькі на тэрыторыі Расіі, а гэты азначае фактычна для Беларусі-эканамічны крах. На думку дэпутата фінансавы абвал наступіць у 1992 годзе і менавіта тады адбудзецца развязка, а таму БЗВ неабходна актывізаваць працу, прапагандаваць ідэю Беларускага войска і збіраць больш дадзеных,як толькі можна,дапамагаць Рэспубліцы.

Пасля гэтага выступалі прадстаунікі рэгіянальных арганізацый і давалі справаздачу аб працы.

Яны падцвердзілі, што праца ідзе, але марудна. Тым не менш практычна усе часткі БВА, Масквы і некаторых іншых месцау ахоплены суполкамі БЗВ. Афіцэры прадбачаць насоуваючыяся скарачэнні і спрабуюць застрахавацца сяброуствам з БЗВ. Сення БЗВ не дае гарантый. Са з'яуленнем першых беларускіх частак сяброуства у БЗВ будзе мець значную вагу. Не нацыянальнасць і не месца нараджэння, спадары беларусы, а уклад у справу адраджэння і праца у БЗВ будзе улічвацца пры прыеме на службу у Беларускае Войска.




Малюнак Ібраіма Сейтасманава.

Заявы аб прыеме у БЗВ неабходна накіроуваць на адрас мясцовых суполак БЗВ, альбо пры адсутнасці сувязі з такімі на адрас:
Рэспубліка Беларусь, г.Менск, вул.Мірашнічэнкі, д.16, к.2, кв.135
Чыславу Сяргею Уладзіміравічу.

---

Нумар падрыхтавалі: Станіслау Суднік, Аляксей Мазурау, Андрэй Аучыннікау. Шрыфт тэхнічны.